КІРАУНІЦТВА НАР.-ГАСПАДАРЧАГА ВУЧОТА Б. С. С. Р.



# ЦЭННІК-ДАВЕДНІК

## НА БУДМАТАР'ЯЛЫ І ГУЖПЕРАВОЗКІ ПА Б. С. С. Р.

### на 1933 год.






...СК 1933 г.

# ПРАДМОВА

Цэннік-даведнік на будматар'ялы выдаецца Кіраўніцтвам Наргасвучота БССР на падставе пастановы Камісіі Выканання пры СНК БССР ад 10 кастрычніка 1933 г. і мае сваёй мэтай даць фінансава-крэдытным і праектуючым будаўнічым арганізацыям сістэматызаваны матар'ял па ўстаноўленых на 1933 г. адпускных цэнах прамысловасці на будматар'ялы.

Па незалежных ад Кіраўніцтва Наргасвучота прычынах даведнік выходзіць са значным спазненнем. Па гэтых-жа прычынах змест даведніка абмежаваны цэнамі толькі на тыя будаматар'ялы, якія вырабляюцца на прадпрыемствах БССР (за выключэннем цэн на пілаһматар'ялы, якія зусім не ўключаны ў даведнік). Нягледзячы на прынятыя Кіраўніцтвам меры да максімальна поўнага выяўлення наменклатуры гэтых матар'ялаў, усё-ж магчыма, што гэта поўнасцю не ўдалося.

Асноўнай цяжкасцю пры збору матар'ялу з'явілася адсутнасць на шэраг матар'ялаў афіцыйных прэйскурантаў. Друкуемыя цэны прыходзілася збіраць непасрэдна ў аб'яднаннях і наркаматах; у некаторых выпадках па гэтай прычыне даны не зацверджаныя, а фактычна існуючыя адпускныя цэны (гэтыя выпадкі спецыяльна агавораны).

Акрамя цэн на будматар'ялы, у даведніку змешчаны таксама тарыфы на гужперавозкі транспартнымі арганізацыямі і інструкцыя да іх прымянення. Што датычыцца гужперавозак калгасным і сялянскім транспартам, то ў сувязі з тым, што пытанне ўстанаўлення адзіных норм і расцэнкаў адпаведнымі арганізацыямі яшчэ толькі прапрацоўваецца, мы вымушаны абмежавацца перадрукаваннем норм і расцэнкаў, устаноўленых пастановамі НКПрацы БССР і дзейнічаючых да гэтага часу на вывозку леса, торфу, камення, пяску і г. д.

Кіраўніцтва Наргасвучота просіць усе зацікаўленыя арганізацыі і асобы даць свае заўвагі па гэтаму даведніку з тым, каб яны маглі бы быць улічаны пры складанні такіх даведнікаў у далейшым.

Уся работа па збору змешчанага матар'ялу і падрыхтоўкі яго да друку праведзена эканамістамі КНГУ БССР т. т. Гарэлік і Лебедзевым пад непасрэдным кіраўніцтвам ніжэй падпісаўшагася.

Нам. Нач. Кір. Нар-Гасп. Вучота БССР **Голант.**

# I. Пастановы ўраду

## Пастанова Совета Народных Камісараў БССР

Ад 25 лютага 1933 г. № 208

### Пра пашырэнне вырабу і цэны на мясцовыя будаўнічыя матар'ялы ў 1933 г.

Совет Народных Камісараў БССР адзначае надзвычайна нездавальняючую работу прамысловасці па вырабу будаўнічых матар'ялаў у 1932 г. Галоўнымі недахопамі гэтай галіны прамысловасці з'яўляецца значнае недавыкананне праграмы па вырабу прадукцыі, асабліва цэглы (гадавы план вырабу цэглы выканан толькі на 52 проц., маруднае ўнядрэнне вырабу новых будматар'ялаў, значнае ўдаражэнне сабекошта. Усё гэта стварылася ў выніку зусім слабага кіраўніцтва гэтай галіной прамысловасці з боку Упаўнаважанага НК Цяжпрома, гаспадарчых арганізацый, гарадскіх советаў і раённых выканаўчых камітэтаў, безадказнасці і безгаспадарчасці з боку кіраўнікоў некаторых прадпрыемстваў і недастатковай увагі справе арганізаванага набора рабочай сілы, належнай арганізацыі працы, механізацыі і рацыяналізацыі вытворчых працэсаў.

Для знішчэння адзначаных недахопаў у 1933 г., у дадатак да сваёй пастановы за 4/1-1933 г. і ў адпаведнасці з пастановай СНК СССР за 5 лютага г. г. № 140 „Аб пашырэнні выраба і патаненні мясцовых будматар'ялаў у 1933 г." Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Паставіць перад адпаведнымі наркаматамі, гарадскімі советамі, раённымі выканаўчымі камітэтамі і гаспадарчымі арганізацыямі, якія займаюцца вырабам будматар'ялаў, задачу абавязкова дабіцца ў 1933 г. рашучага пералома ў справе кіравання прамысловасцю будматар'ялаў, поўнага выканання вызначанай народна-гаспадарчым планам на 1933 г. праграмы выраба будматар'ялаў і зніжэння сабекошту.

2. Устанавіць наступныя па БССР адпускныя цэны на будаўнічыя матар'ялы на 1933 г. франка-завод (у рублёх):

| | Чырв. цэгла за 1 т. шт. | Вапна за тону | Гонта капа | Фібрал. кг. м. | | Чарапіца за 1 т. штук |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Вапна трэп. | Магнез | |
| а) Дзяржаўн. прамысл. | 70—38 | | | | | |
| У тым ліку: | | | | | | |
| Рэспубліканская | 72—42 | 40—00 | — | — | — | 200—00 |
| Мясцовая | 68—65 | 50—00 | — | — | — | 200—00 |
| б) Белпрамбудкерамсаюз | 84—45 | 60—00 | — | — | — | 200—00 |
| в) Жылсаюз | 84-45 | — | 1—56 | 90—00 | 92—00 | — |
| г) Лесбел | — | — | 1—54,2 | — | — | — |

Зацвердзіць наступныя цэны на цэглу, якая вырабляецца дзяржаўнай прамысловасцю па гарадох і раёнах:

| | Рэсп. | Мясц. | | Рэсп. | Мясц. |
|---|---|---|---|---|---|
| Па Менску за 1 тыс. | 70 | 70 | Па Полацкаму за 1 тыс. | — | 60 |
| „ Гомелю „ „ | 72 | 72 | „ Рагачову „ „ | — | 65 |
| „ Віцебску „ „ | 70 | 70 | „ Барысаву „ „ | 68 | — |
| „ Магілеву „ „ | 60 | 60 | „ Горках „ „ | 85 | — |
| „ Бабруйску „ | — | 70 | „ Петрыкаву „ „ | 90 | — |
| „ Оршы „ „ | 90 | 68 | „ Обалю „ „ | 80 | — |

3. Цэны да цэглу і вапну, якія вырабляюцца Белпрамбудкерамсаюзам, зацвердзіць па раёнах арыентыровачна і даручыць Белпрамбудкерамсаюзу не пазней 28 лютага 1933 г. разам з Дзяржпланам канчаткова ўдасканаліць па раёнах адпускныя цэны ў межах вызначанай гэтай пастановай сярэдня-рэспубліканскай цаны.

Устаноўленыя для прамкааперацыі цэны не пашыраюцца на фонды па шырспажыву.

4. Прыраўняць умоўна адпускныя цэны на цэглу і вапну, што вырабляюцца на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці з напольнымі печамі ў раёнах да цэн, устаноўленых для гэтых раёнаў на адпаведныя будматар'ялы па лініі прамкааперацыі і абавязаць Упаўнаважанага НК Цяжпрома не пазней 10 сакавіка г. г. зрабіць карэктыроўку гэтых цэн у адпаведнасці з канкрэтнай калькуляцыяй.

Абавязаць РВК не пазней 1|III-г. г. падаць Упаўнаважанаму НК Цяжпрома даныя аб фактычным сабекошту і адпускных цэнах на будматар'ялы ў 1932 г. і аб сваіх праектыроўках гэтых цэн на 1933 г.

5. Абавязаць трэсты і гаспадарчыя арганізацыі дыферэнцыраваць вызначаныя для іх сярэднія адпускныя цэны на будматар'ялы на 1933 г. па паасобных заводах з тым, каб вызначаная сярэдняя цана для асобнага горада і асобнай гаспадарчай арганізацыі не была перавышана.

6. Устаноўленыя гэтай пастановай цэны з'яўляюцца гранічнымі для поўнаякаснай прадукцыі з паніжэннем на 10 проц. на другі сорт і пашыраюцца на ўвесь водпуск будматар'ялаў, пачынаючы з 1-га студзеня 1933 г.

Калі да выдання гэтай пастановы будматар'ялы адпушчаліся ў 1933 г. па цэнах ніжэйшых альбо вышэйшых супроць вызначаных гэтай пастановай, то адпаведныя арганізацыі павінны зрабіць пералік у адпаведнасці з цэнамі, устаноўленымі гэтай пастановай.

7. Катэгарычна забараніць продаж будаўнічых матар'ялаў па цэнах вышэй устаноўленых гэтай пастановай. За парушэнне гэтага прыцягваць вінаватых да судовай адказнасці.

8. Прапанаваць Бел. Канторы Прамбанку, Соцзембанку, Усекабанку і Белкамунбанку ні ў якім разе не аплачваць рахункаў-фактур складзеных з перавышэннем цэн у параўнанні з вызначанымі гэтай пастановай цэнамі. Забараніць будуючым арганізацыям заключаць дагавары па будматар'ялам звыш вызначаных гэтай пастановай цэн.

9. Папярэдзіць кіраўнікоў прадпрыемстваў па вырабу будматар'ялаў, што ніякія страты па будматар'ялах у 1933 г. пакрывацца не будуць.

10. Абавязаць Упаўнаважанага НК Леспрома пры давядзенні лесасек для самазагатовак прамкааперацыі для апалу цэгляных і вапняных заводаў, забяспечыць адвод лесасек на больш блізкай адлегласці ад заводаў альбо чыгуначных і водных шляхоў.

11. Устанавіць на 1933 г. гранічную стаўку для гужавога транспарта па перавозцы будматар'ялаў за 1 тон-клм. (у радыусе 3 клм.) уключаючы пагрузку і выгрузку—3 руб. 50 кап.

Прапанаваць гарсоветам і райвыканкомам да 10 сакавіка ўстанавіць цэны на перавозку будматар'ялаў на адлегласці больш 3-х клм.

Гэтая гранічная стаўка датычыцца тых перавозак, якія праводзяцца без снабжэння фуражом па цвёрдых цэнах. Пры частковым альбо поўным снабжэнні фуражом па цвёрдых цэнах гэтая гранічная стаўка адпаведна зніжаецца.

12. Абавязаць Галоўдартранс і інш. транспартныя арганізацыі гарадоў перавозіць будматар'ялы і апал для заводаў па вырабу будматар'ялаў нараўне з грузамі першачарговага значэння.

13. Прапанаваць Упаўнаважанаму НК Шляхоў забяспечыць пагрузку будматар'ялаў і разгрузку прыбываючага для заводаў апалу на зачыненых для агульнага карыстання ветках і чыгуначных тупікоў бліжэй да цагельных заводаў.

14. Прапанаваць Упаўнаважанаму НК Цяжпрома на працягу 5-ці дзён скласці ад імя СНК БССР дакладную запіску ў СНК СССР аб водпуску патрэбных для прамысловасці БССР механізмаў, аўтамашын і інш.

15. Даручыць Камісіі Выканання праверыць у бліжэйшы час выкананне пастановы СНК БССР за 4/1-1933 г. „Пра падрыхтоўку прамысловасці будматар'ялаў да сезона 1933 г.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР **К. Бенек.**

Кіраўнік Спраў Совета Народных Камісараў
і Эканамічнага Совета БССР **С. Кандыбовіч.**

## Пастанова Совета Народных Камісараў БССР

ад 7 чэрвеня 1933 г.

### Пра цэны на мясцовыя будаўнічыя матар'ялы і тарыфы на гужавыя перавозкі.

Совет Народных Камісараў БССР адзначае, што шэраг раённых выканаўчых камітэтаў да гэтага часу не выканалі п. 4 пастановы СНК № 208 за 25 лютага г. г. і не прадставілі Упаўнаважанаму НК Цяжкай Прамысловасці неабходных даных для карэктыроўкі цэн на цэглу і вапну на прадпрыемствах мясцовай прамысловасці з напольнымі печамі і што большасць раённых выканаўчых камітэтаў да гэтага часу не выканалі пастановы СНК № 209 за 25 лютага 1933 г. аб устанаўленні тарыфаў на гужтранспарт.

Совет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Прапанаваць усім раённым выканаўчым камітэтам і гарадскім советам на працягу 5-ці дзён выканаць п. 4 пастановы СНК № 208 за 25 лютага г. г. аб прадстаўленні Упаўнаважанаму НК Цяжкай Прамысловасці ўсіх даных аб фактычным сабекошту і адпускных цэнах на мясцовыя будаўнічыя матар'ялы ў 1932 г. і сваіх праектыроўках гэтых цэн на 1933 г.

Прапанаваць Упаўнаважанаму НК Цяжкай Прамысловасці на працягу дэкады закончыць карэктыроўку цэн на будаўнічыя матар'ялы па мясцовай прамысловасці і паведаміць гэтыя цэны па ўсіх раёнах і гарадох Дзяржплана.

2. Абавязаць усе раённыя выканаўчыя камітэты і гарадскія советы на працягу дэкады выдаць згодна пастановы СНК № 209 за 25 лютага г. г. пастановы аб тарыфах на гужтранспарт і паведаміць гэтыя тарыфы Дзяржплану.

3. Абавязаць Дзяржплан на працягу месяца выдаць афіцыйны даведнік аб цэнах на будаўнічыя матар'ялы і тарыфах на гужтранспарт па БССР.

4. Папярэдзіць усіх старшынь РВК і гарсоветаў, што за спыненне фінансавання капітальнага будаўніцтва банкамі доўгатэрміновых укладанняў у адпаведнасці з пастановай СНК СССР № 848 за

27 красавіка г. г. з прычыны невызначэння па данаму раёну—гораду цэн на мясцовыя будаўнічыя матар'ялы і гужтранспарт, яны нясуць персанальную адказнасць.

Нам. Старшыні Совета Народных
Камісараў БССР **К. Бенек.**

Кіраўнік Спраў Совета Народных
Камісараў БССР **С. Кандыбовіч.**

## ПАСТАНОВА № 62
## Камісіі Выканання пры СНК БССР

10 кастрычніка 1933 г.

**Аб выкананні Дзяржпланам БССР пастановы СНК БССР № 826 „Пра выданне кадыфікаванага даведніка цэн на будаўнічыя матар'ялы і гужтранспарт".**

Заслухаўшы даклад т. Пятровіча аб выкананні Дзяржпланам БССР пастановы СНК БССР № 826 „Пра выданне кадыфікаванага даведніка цэн на будматар'ялы і гужтранспарт", Камісія Выканання СНК БССР пастанаўляе:

1. Адзначыць, што пастанова СНК БССР № 826 за 7/VI-33 г. аб выданні даведніка цэн на будматар'ялы і гужтранспарт Дзяржпланам не выканана, за што Прэзідыуму Дзяржплана абвясціць вымову.

2. Выданне кадыфікаванага даведніка цэн ускласці на Кіраўніцтва Наргасвучота БССР пад персанальную адказнасць т. Стракоўскага з тым, каб праца была скончана на працягу аднаго месяца.

3. Выданне даведніка цэн ажыццявіць на пачатках гаспадарчага разрахунка, узгадніўшы тыраж і змест даведніка з Спецбанкамі БССР.

Нам. Старшыні Камісіі Выканання
пры СНК БССР **Лычоў.**

Сакратар Камісіі Выканання
пры СНК БССР **Юрашкевіч.**

---

# II. Будаўнічыя матар'ялы сілікатнай прамысловасці

## 1. Цэгла чырвоная будаўнічая. Цана франко-завод у руб. і кап. (за 1000 шт.)

| Раёны вытворчасці | Дзяржпром | | | | Саматужная прам. каапера-цыя | | Жыллёвая каапера-цыя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рэспубл. прамысловасць | | Мясцовая прамысловасць | | | | | |
| | Цана | | Цана | | Цана | | Цана | |
| | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| Сярэдняя па БССР (зацверджана СНК 25/II-33 г.) | 72 | 42 | 68 | 65 | 84 | 45 | 84 | 45 |
| 1. Оршанскі | 90 | — | 68 | — | 84 | — | 90 | — |
| 2. Бабруйскі | — | — | 70 | — | 90 | — | — | — |
| 3. Барысаўскі | 68 | — | — | — | 90 | — | — | — |
| 4. Бешанковіцкі | — | — | 77 | — | 86 | — | — | — |
| 5. Б.-Кашалёўскі | — | — | — | — | 95 | — | — | — |
| 6. Быхаўскі | — | — | — | — | 90 | — | — | — |
| 7. Бягомльскі | — | — | 80 | — | 84 | — | — | — |
| 8. Бялыніцкі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 9. Бярэзінскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 10. Віцебскі | 70 | — | 70 | — | 84 | — | — | — |
| 11. Веткаўскі | — | — | — | — | 95 | — | — | — |
| 12. Ушацкі | — | — | — | — | 77 | — | — | — |
| 13. Гарадоцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 14. Глускі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 15. Горацкі | 85 | — | — | — | — | — | — | — |
| 16. Гомельскі | 72 | — | 72 | — | 95 | — | 84 | — |
| 17. Дзяржынскі | — | — | — | — | 72 | — | — | — |
| 18. Дрысенскі | — | — | 70 | — | 74 | — | — | — |
| 19. Дубровенскі | — | — | — | — | 85 | — | — | — |
| 20. Ельскі | — | — | — | — | 80 | — | — | — |
| 21. Жлобінскі | — | — | — | — | 86 | — | — | — |
| 22. Жыткавіцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 23. Заслаўскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 24. Камарынскі | — | — | — | — | 99 | — | — | — |
| 25. Капыльскі | — | — | 77 | — | — | — | — | — |
| 26. Кармянскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |

| Раёны вытворчасці | Дзяржпром: Рэспубл. прамысловасць Цана Р. | К. | Мясцовая прамысловасць Цана Р. | К. | Саматужная прам. кааперацыя Цана Р. | К. | Жыллёвая кааперацыя Цана Р. | К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 27. Касцюковіцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 28. Клімавіцкі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 29. Клічаўскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 30. Крупскі | — | — | — | — | 72 | — | — | — |
| 31. Крычаўскі | — | — | 77 | — | — | — | — | — |
| 32. Лагойскі | — | — | — | — | 90 | — | — | — |
| 33. Ліознянскі | — | — | — | — | 90 | — | — | — |
| 34. Лельчыцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 35. Лепельскі | — | — | 82 | — | 84 | — | — | — |
| 36. Лоеўскі | — | — | — | — | 75 | — | — | — |
| 37. Магілеўскі | 60 | — | 60 | — | 86 | — | — | — |
| 38. Мазырскі | — | — | — | — | 77 | — | — | — |
| 39. Менскі а) горад | 70 | — | 70 | — | — | — | — | — |
| б) Астр. гарадок | — | — | 63 | — | — | — | — | — |
| 40. Мсціслаўскі | — | — | — | — | 77 | — | — | — |
| 41. Парыцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 42. Плешчаніцкі | — | — | 70 | — | 77 | — | — | — |
| 43. Полацкі | — | — | 60 | — | 90 | — | — | — |
| 44. Прапойскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 45. Пухавіцкі | — | — | 80 | — | 81 | — | — | — |
| 46. Петрыкаўскі | 90 | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 47. Рагачоўскі | — | — | 65 | — | 81 | — | — | — |
| 48. Рэчыцкі | — | — | 84 | — | 81 | — | — | — |
| 49. Сенненскі | — | — | — | — | 83 | — | — | — |
| 50. Сіроцінскі | 80 | — | — | — | 83 | — | — | — |
| 51. Смалявіцкі | — | — | 75 | — | — | — | — | — |
| 52. Старадарожскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 53. Старобінскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 54. Слуцкі | — | — | 76 | — | 90 | — | — | — |
| 55. Суражскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 56. Талочынскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 57. Тураўскі | — | — | — | — | 77 | — | — | — |
| 58. Уваравіцкі | — | — | — | — | 90 | — | — | — |

| Раёны вытворчасці | Дзяржпром | | | | Саматужная прам. каапераця | | Жыллёвая каапераця | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рэспубл. прамысловась | | Мясцовая прамысловасць | | | | | |
| | Цана | | Цана | | Цана | | Цана | |
| | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 59. Уздзенскі | — | — | 73 | — | — | — | — | — |
| 60. Хойніцкі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 61. Церахоўскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 62. Чавускі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 63. Чачэрскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 64. Чашніцкі | — | — | — | — | 90 | — | — | — |
| 65. Чэрыкаўскі | — | — | — | — | 81 | — | — | — |
| 66. Чырвонаслабодскі | — | — | — | — | 84 | — | — | — |
| 67. Шклоўскі | — | — | 57 | 50 | 84 | — | — | — |

## 2. Вапна негашаная цана за 1 тону ў руб. франко-завод.

| Раёны вытворчасці | Дзяржпрамысловасць | | Саматужная прамысловая каапераця | Жыллёвая каапераця |
|---|---|---|---|---|
| | Рэспубліканская прамысловасць | Мясцовая прамысловасць | | |
| | 1 | 2 | 3 | 4 |
| Сярэдняя па БССР (зацверджана СНК 25\|II-1933 г. | 40 | 50 | 60 | — |
| 1. Оршанскі | — | — | 48 | — |
| 2. Бабруйскі | — | — | 57 | — |
| 3. Бешанковіцкі | — | — | 72 | — |
| 4. Быхаўскі | — | — | 62 | — |
| 5. Бягомльскі | — | — | 53 | — |
| 6. Бярэзінскі | — | — | 62 | — |
| 7. Веткаўскі | — | — | 53 | — |
| 8. Віцебскі | 40 | 50 | 57 | — |
| 9. Гарадоцкі | — | — | 48 | — |
| 10. Горацкі | — | — | 67 | — |
| 11. Дрысенскі | — | — | 67 | — |
| 12. Дубровенскі | — | — | 58 | — |

| Раёны вытворчасці | Дзяржпрамысловасць | | Саматужная прамысловая каапперацыя | Жыллёвая каапэрацыя |
|---|---|---|---|---|
| | Рэспубліканская прамысловасць | Мясцовая прамысловасць | | |
| | 1 | 2 | 3 | 4 |
| 13. Дзяржынскі . . . | — | 50 | — | — |
| 14. Касцюковіцкі . . . | — | — | 58 | — |
| 15. Клімавіцкі . . . | 60 | — | 57 | 60 |
| 16. Копыльскі . . . | — | — | 67 | — |
| 17. Крычаўскі . . . | — | — | 53 | — |
| 18. Лагойскі . . . . | — | — | 62 | — |
| 19. Лёзнянскі . . . . | — | — | 67 | — |
| 20. Лепельскі . . . . | — | — | 62 | — |
| 21. Мсціслаўскі . . . | — | — | 67 | — |
| 22. Плешчаніцкі . . . | — | — | 58 | — |
| 23. Полацкі . . . . | — | — | 72 | — |
| 24. Прапойскі . . . | — | — | 68 | — |
| 25. Слуцкі . . . . | — | — | 58 | — |
| 26. Смалявіцкі . . . | — | — | 57 | — |
| 27. Чачэрскі . . . . | — | — | 62 | — |
| 28. Чашніцкі . . . . | — | — | 72 | — |
| 29. Червенскі . . . . | — | — | 57 | — |
| 30. Чэрыкаўскі . . . | — | — | 62 | — |

### 3. Чарапіца ганчарная апаленая. Цана франко-завод у руб. (за 1000 шт.)

| Раёны | Дзяржпрамысловасць | | Сампрамысловая каапэрацыя |
|---|---|---|---|
| | Рэспубліканская прамысловасць | Мясцовая прамысловасць | |
| | 1 | 2 | 3 |
| Сярэдняя па БССР (Зацверджана СНК 25\|II-1933 г. . . . . . . . | 200 | 200 | 200 |
| 1. Бабруйскі . . . . . . . | — | 200 | — |
| 2. Бялыніцкі . . . . . . . | — | — | 200 |
| 3. Віцебскі . . . . . . . | 200 | 200 | — |
| 4. Дрысенскі . . . . . . . | — | — | 200 |
| 5. Дубровенскі . . . . . . . | — | — | 200 |
| 6. Лёзнянскі . . . . . . . | — | — | 200 |
| 7. Магілеўскі . . . . . . . | — | — | 200 |
| 8. Менскі . . . . . . . | 200 | — | — |
| 9. Полацкі . . . . . . . | — | 200 | — |
| 10. Уздзенскі . . . . . . . | — | 200 | — |
| 11. Церахоўскі . . . . . . . | — | — | 200 |

## 4. Кахлі. Цана франко-завод у руб. і кап. за 1 штуку

(фактычна існуючыя адпускныя цэны)

| Назва вырабаў | Дзяржпрамысловасць | | | | Сампрамкаапер. (Оршанскі раён з-д „Чырвоны Кастрычнік“ | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рэспубл. прам. (Копыскі з-д) | | Мясцов. прам. (Менскі з-д) | | | |
| | Цана | | Цана | | Цана | |
| | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. | | Кап. |
| 1. Кахлі прамыя шэрыя . . | — | 46 | — | 50 | — | 23 |
| 2. „ вуглавыя „ . . | — | — | — | 75 | — | 35 |
| 3. „ церакотавыя шэрыя . | — | 56 | — | 60 | — | — |
| 4. „ „ вуглавыя . | — | 84 | — | 90 | — | — |
| 5. Квадрацелі прамыя шэрыя . | — | 23 | — | 30 | — | — |
| 6. „ вуглавыя „ . | — | 34 | — | 45 | — | — |
| 7. Кахлі прамыя глазур. белыя . | — | 70*) | 2 | 70 | — | — |
| 8. „ вуглавыя „ „ . | — | — | 4 | 05 | — | — |
| 9. „ прамыя „ жоўтыя . | — | — | 1 | 50 | — | — |
| 10. „ вуглавыя церакот. жоўтыя | — | — | 2 | 25 | — | — |
| 11. Квадрацелі прамыя глазур. бел. | — | — | 1 | 25 | — | — |
| 12. „ вуглавыя „ „ | — | — | 1 | 88 | — | — |
| 13. „ прамыя „ жоўт. | — | — | 1 | — | — | — |
| 14. „ вуглавыя „ „ | — | — | 1 | 50 | — | — |
| 15. Цоколь прамы шэры . . | — | — | 2 | 50 | — | — |
| 16. „ вуглавы „ . . | — | — | 3 | — | — | — |
| 17. „ прамы глазурав. . | — | — | 4 | — | — | — |
| 18. „ вуглавы „ . . | — | — | 5 | — | — | — |
| 19. „ пасадкі футровыя . | — | — | — | 20 | — | — |
| 20. Пліткі глазураваныя . . | — | 50**) | — | — | — | — |
| 21. Фінляндскія вуглы глазураваныя | 1**) | — | — | — | — | — |
| 22. Каробкі да фінлянд. вугл. глазур. | — | 50**) | — | — | — | — |
| 23. Трубы глазураваныя . . | 10 | — | — | — | — | — |
| 24. Трубы „8“ . . | 7 | 50 | — | — | — | — |
| 25. „ „3“ дрэн. . . | — | 60 | — | — | — | — |
| 26. „ „4“ „ . . | — | 80 | — | — | — | — |
| 27. Палугалерэі (за фасад) . . | 8 | — | — | — | — | — |
| 28. Паяскі ( „ ) . | 5 | — | — | — | — | — |

*) 1 сорт размер 6×4 в.

**) 1 сорт.

### 5. Бетонныя вырабы. Цана франко-завод (па Менскаму заводу мясцовай прамысловасці)

Фактычна існуючыя адпускныя цэны

| Назва вырабаў | Размер | Адзінка вымеру | Цана Руб. | К. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Трубы жалеза-бетонныя. . . . . . | 600 м/м | Шт. | 20 | — |
| 2. " " " . . . . . . . | 400 м/м | " | 6 | 50 |
| 3. " " " . . . . . . . | 300 м/м | " | 5 | 24 |
| 4. " бетонныя . . . . . . | 960 м/м | Кальцо | 18 | 70 |
| 5. " " конусныя . . . . . | 960×620м/м | Шт. | 15 | 40 |
| 6. " " простыя . . . . . . | 750 м/м | Кальцо | 13 | 60 |
| 7. Гарлавіны . . . . . . . . . | 620 м/м | Шт. | 11 | 60 |
| 8. Падаконнікі бетонныя . . . . . . | — | Паг. метр. | 5 | 75 |
| 9. Столбікі ўсечаныя бетонныя . . . . . | — | Шт. | 5 | 50 |
| 10. Борты . . . . . . . . . . | — | Паг. метр. | 4 | 35 |
| 11. Ступені бетонныя . . . . . . . | — | " | 6 | 54 |
| 12. " мазаічныя . . . . . . | — | " | 13 | 25 |
| 13. Пліткі тратуарныя . . . . . . | 400 м/м | Шт. | — | 95 |
| 14. " " . . . . . . . | 300 м/м | " | — | 40 |
| 15. " " . . . . . . . | 266 м/м | " | — | 35 |
| 16. " мазаічныя . . . . . . | 250 м/м | " | 1 | 25 |
| 17. " " . . . . . . . | 200 м/м | " | — | 85 |
| 18. бетонныя . . . . . . | 200 м/м | " | — | 16 |
| 19. " каменныя . . . . . . | 200 м/м | " | — | 20 |
| 20. Камені бетанітавыя (пустацелыя) . . | — | Шт. | — | 90 |

### 6. Іншыя будматар'ялы сілікатнай прамысловасці. Цэна франко-завод

| Назва матар'ялаў | Раёны вытворчасці | Каму падпарадкавана | Адзінка вымеру | Цана Руб. | К. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Фібраліт | | | | | |
| а) вапняна-трэпельны . . | Клімавіцкі раён | Рэспубл. пр-ць | 1 кв. м. | 6 | 75 |
| " . . . . | " " | Жылка-аперацыя | " | 6 | 30 |
| б) Магнезітавы . . . . | Віцебскі " | " | " | 6 | 45 |

| Назва матар'ялаў | Раёны вытворчасці | Каму падпарадкавана | Адзінка вымеру | Цана | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Руб. | К. |
| | Менскі раён | Жылка-аперацыя | 1 кв. м. | 6 | 45 |
| 2. Буйна-блочныя камені . . | " " | Рэспубл. пр-ць | 1000 шт. | 1250 | — |
| " . . . . | Гомельскі " | " | " | 1250 | — |
| 3. Трэпел . . . . . . | Клімавіцкі " | " | 1 тона | 13 | 38 |
| 4. Крэйда | | | | | |
| а) плаўленыя комавая . . | Крычаўскі " | " | " | 30 | — |
| б) молатая . . . . . | " " | " | " | 35 | — |
| " . . . . . | Дзяржынскі " | Мясцов. пр-ць | " | 50 | — |
| 5. Цэгла клінкерная | | | | | |
| 1 сорт . . . . . | Гомельскі " | Галоўдартранс | 1000 шт. | 133 | — |
| 2 " . . . . . | " " | " | " | 95 | — |
| 3 " . . . . . | " " | " | " | 60 | — |
| 6. Цэгла сілікатная . . . | Клімавіцкі " | Жылкааперацыя | 1000 шт. | 84 | 50 |
| 7. Ізапліты . . . . . . | Сіроцінскі " | Рэспубл. пр-ць | 1 кв. м. | 2 | 60 |

Заўвага. На цэглу клінкерную цана франко-вагон станцыя адпраўлення.

# III. Стандартныя дамы і лясныя будматар‘ялы (акрамя лесапіламатар‘ялаў).

**1. Стандартныя каркасныя фібраліт. дамы і стандартныя буддэталі да іх па жыллёвай кааперацыі. Цана франко-завод за 1 шт.**

| Назва вырабаў | Раёны вытворчасці | Размеры ў м/м | Цана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | Кап. |
| 1. Стандартныя каркасныя фібралітавыя дамы . . . . . | Менск, Віцебск, Гомель, Орша | 16 кват. 2760 к/м 430 к/м жылпл. | 35000 | — |
| 2. Каробкі дзверныя . . . . | | — | 8 | 23 |
| 3. Дзверы: а) з наплыўнымі філенкамі Ост 827 . . . | | 1050×2000 | 57 | 82 |
| 4. „ б) з дашчатымі філенкамі Ост 815 . . . | | 850×2000 | 40 | 17 |
| 5. „ в) з фанернымі філенкамі Ост 816 . . . | | 850×2000 | 35 | 36 |
| 6. „ г) з фанернымі філенкамі Ост 820 . . . | | 630×2000 | 34 | 88 |
| 7. Каробкі аконныя . . . . | | — | 10 | 41 |
| 8. Окны: а) створкі аконныя Ост 1505/2 | | 1590× 550 | 10 | 22 |
| б) фрамугі „ | | 590× 550 | 8 | — |
| в) форткі . . . . | | — | 12 | 45 |
| г) падаконнікі . . . | | — | — | 55 |

**2. Стандартныя дамы і стандартныя будаўнічыя вырабы па Лесбелу Цана франко ст. адпраўлення.**

| Назва вырабаў | Стандарт і размеры | Адзінка вымеру | Цана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. |
| 1. Стандартныя дамы брускавыя . | 2-хпавярх. 317 кв. мтр. жылой плошчы . | шт. | 16530 | — |
| 2 „ „ шчытавыя . | 1-павярх. 248 кв. мтр. жылой плошчы . | „ | 8141 | — |
| 3. 8-мікватэрны Б. І. . . . | Дамы інш. тып. і разм. | „ | па дагаворан. | |
| 4. Дзверы экспартныя . . . | | 1 кв. м. | 9 | — |

| Назва вырабаў | Стандарт і размеры | Адзінка вымеру | Цана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | К. |
| 5. Дзверы з фанернымі філенк. . | Па ОСТ'ам № 814-818 | | | |
| „ | Тыпы 66, 99, 44, 22 таўш. | | | |
| „ | 37 м/м | 1 кв. м. | 6 | 35 |
| „ | 44 м/м | „ | 7 | 60 |
| „ | Размеры 2000×850×37 | шт. | 10 | 80 |
| „ | „ 1980×760×37 | „ | 9 | 60 |
| 6. Дзверы з дашчатымі філенк. . | Па ОСТ'ам № 814-836 | | | |
| „ | Таўшчынёю 37 м/м | 1 кв. м. | 7 | 25 |
| „ | „ 44 м/м | „ | 8 | 70 |
| „ | Размеры 2000×850×37 | шт. | 12 | 30 |
| „ | „ 1960×760×37 | „ | 10 | 90 |
| 7. Дзверы з накладнымі філенкамі . | Па ОСТ-у 825 таўшч. 44 м/м | 1 кв. м. | 11 | 60 |
| 8. Аконныя пераплёты . . . | Па ОСТ'ам 1500-1533 | | | |
| „ | Таўшчыня рам. 37 м/м | „ | 4 | 75 |
| „ | „ „ 44 м/м | „ | 5 | 90 |

Заўвага: Раён вытворчасці—г. Бабруйск „Лесакамбінат“.

## 3. Фенера. Цана франко-вагон станцыя адпраўлення за 1 куб. мтр.

| Назва вырабаў | Сорт | Раёны вытворчасці | Цана | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | Кап. |
| 1. Фанера клееная бярозавая і альховая абрэзная . . . . | „АА“ | Бабруйскі раён—завод № 16 і завод імя Томскага, Віцебскі раён, Мазырскі раён—„Чырвоны Кастрычнік“, Петрыкаўскі раён—„Звязда“, Барысаўскі раён—„Комінтэрн“ | 520 | — |
| | „А“ | | 296 | — |
| | „АВ“ | | 238 | — |
| | „В“ | | 205 | — |
| | „ВВ“ | | 172 | — |
| | „С“ | | 132 | — |
| | „СС“ | | 121 | 74 |
| | „IV“ | | 90 | — |
| 2. Фанера клееная бярозавая і альховая прырэзная . . . . | „ВВ“ | | 224 | — |
| | „С“ | | 165 | — |
| | „СС“ | | 146 | — |

## 4. Іншыя лесаматар'ялы (па Лесбелу). Цана франко-вагона станцыя адпраўлення.

| Назва вырабаў | Раёны вытворчасці | Парода | Адзінка вымеру | Цана Руб. | Цана Кап. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дрань штукатурная дл. 2,13 м., таўшч. 3 м/м, шыр. 25 м/м | Усе раёны Б. С. С. Р. | Хвойн. | 1000 шт. | 12 | 70 |
| 2. Дрань штукатурная дл. 1 м. | | „ | „ | 6 | —*) |
| 3. Гонт дахавы дл. 63 с/м | | Асінавы | 1000 шт. | 25 | 70 |
| 4. „ „ 63 „ | | Яловы | Капа | 1 | 54 |
| 5. „ „ 54 „ | | „ | 1000 шт. | 22 | 20*) |
| 6. „ 54 „ | | „ | Капа | 1 | 33*) |
| 7. Шчапа дахавая дл. 1 метр | | „ | 1000 шт. | 41 | —*) |
| 8. „ „ 71 с/м. | | „ | „ | 29 | 10*) |
| 9. „ „ 63 „ | | „ | „ | 25 | 70*) |
| 10. „ „ 63 „ | | „ | Капа | 1 | 54 |
| 11. Абычайка дл. 1,5 метр. шыр. 11—14 с/м | | Сасновая | „ | 7 | 50 |
| 12. Лапаты дзеравяныя (тыпу НКПС) | | Асінав. 1 с. | Шт. | — | 60 |
| 13. „ „ | | Ліпав. 2 с. | „ | — | 50 |

Заўвага. Па вырабах адзначаных знакам *) фактычна існуючыя адпускныя цэны.

# IV. Металавыя вырабы

**1. Цвікі дротавыя. Цана за 1 скрынку вагой у 20 кгр. франко-вагон-стан. адпраўлення па рэспубліканскай прамысловасці (г. Орша „Чырвоны Кастрычнік“, г. Рэчыца „Інтэрнацыянал“)**

| Размеры ў м/м | | Цана цвікоў | | | | Размеры ў м/м | | Цана цвікоў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Даўжыня | Дыяметр | Звычайных | | Фасонных | | Даўжыня | Дыяметр | Звычайных | | Фасонн. | |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | | | Руб. | К. | Руб. | К. |
| 250—115 | 8,0—6,0 | 4 | 28 | — | — | 50 | 2,6 | 5 | 65 | — | — |
| | 5,5—4,0 | 4 | 37 | — | — | | 2,3 | 5 | 99 | — | — |
| | 3,5 | 4 | 54 | — | — | | 2,0 | 6 | 11 | — | — |
| | 1,6 | 6 | 98 | 8 | 78 | | 1,6 | 6 | 98 | — | — |
| 100 | 8,0—6,0 | 4 | 37 | — | — | | 1,4 | 7 | 31 | 9 | 11 |
| | 5,5—4,0 | 4 | 37 | — | — | | 1,0 | 12 | 22 | 14 | 02 |
| | 3,5 | 4 | 54 | — | — | 45 | 5,5—4,0 | 5 | 06 | 5 | 96 |
| | 1,6 | 6 | 98 | 8 | 78 | | 3,5 | 5 | 24 | 6 | 14 |
| 90 | 8,0—6,0 | 4 | 37 | — | — | | 2,3 | 6 | 23 | — | — |
| | 5,5—4,0 | 4 | 37 | — | — | | 2,0 | 6 | 34 | 8 | 14 |
| | 3,5 | 4 | 68 | — | — | | 1,6 | 7 | 20 | — | — |
| 80 | 5,5—4,0 | 4 | 45 | 5 | 35 | | 1,4 | 7 | 53 | — | — |
| | 3,5 | 4 | 71 | 5 | 61 | 40 | 3,5 | 5 | 41 | 6 | 31 |
| | 3,0 | 5 | 18 | 6 | 98 | | 2,6 | 5 | 98 | 7 | 79 |
| | 1,6 | 6 | 98 | 8 | 78 | | 2,0 | 6 | 45 | 8 | 26 |
| 70 | 3,5 | 4 | 89 | 5 | 79 | | 1,8 | 6 | 98 | 8 | 78 |
| | 3,0 | 5 | 18 | 6 | 98 | | 1,6 | 7 | 31 | 9 | 11 |
| | 2,5 | 5 | 41 | 7 | 21 | 35 | 2,0 | 6 | 69 | 8 | 49 |
| | 1,4 | 7 | 31 | 9 | 11 | | 1,8 | 7 | 20 | 9 | — |
| 60 | 5,5—4,0 | 4 | 71 | 5 | 61 | 30 | 2,6 | 6 | 34 | 8 | 14 |
| | 3,5 | 4 | 98 | 5 | 88 | | 2,3 | 6 | 69 | 8 | 49 |
| | 3,0 | 5 | 30 | 7 | 10 | | 2,0 | 6 | 81 | 8 | 61 |
| | 2,6 | 5 | 41 | 7 | 21 | | 1,8 | 7 | 31 | 9 | 11 |
| | 2,3 | 5 | 99 | — | — | | 1,6 | 7 | 64 | 9 | 44 |
| | 2,0 | 6 | 11 | 7 | 91 | 25 | 2,6 | 6 | 58 | 8 | 38 |
| | 1,4 | 7 | 31 | 9 | 11 | | 2,3 | 7 | 04 | 8 | 84 |
| | 1,2 | 10 | 66 | 12 | 46 | | 1,8 | 7 | 53 | 9 | 33 |
| 50 | 5,5—4,0 | 4 | 89 | 5 | 79 | | 1,6 | 7 | 87 | 9 | 67 |
| | 3,5 | 5 | 15 | — | — | | 1,4 | 8 | 20 | 10 | — |
| | 3,0 | 5 | 53 | — | — | | 1,2 | 10 | 66 | 12 | 46 |

| Размеры ў м/м | | Цана цвікоў | | | | Размеры ў м/м | | Цана цвікоў | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Даўжыня | Дыяметр | Звычайных | | Фасонных | | Даўжыня | Дыяметр | Звычайных | | Фасонн. | |
| | | Руб. | К. | Руб. | К. | | | Руб. | К. | Руб. | К. |
| 20 | 2,3 | 7 | 51 | 9 | 31 | 15 | 1,0 | 12 | 22 | 14 | 02 |
| | 2,0 | 7 | 62 | 9 | 42 | 12 | 2,3 | 8 | 21 | 10 | 01 |
| | 1,4 | 8 | 43 | 10 | 23 | | 1,0 | 12 | 34 | 15 | 14 |
| | 1,2 | 10 | 66 | 12 | 46 | | 0,9 | 22 | 93 | 24 | 73 |
| 15 | 2,0 | 7 | 86 | 9 | 66 | 9 | 0,8 | 29 | 57 | 31 | 37 |
| | 1,2 | 11 | 33 | 13 | 13 | 6 | 0,7 | 42 | 46 | — | — |

## 2. Скабяныя вырабы (Пячныя, дзвярныя і аконныя прыборы).

| Назва вырабаў | Адзінка вымеру | Рдзмер у м/м. | Вага ў грамах | Месца вытворчасці | Цана Руб. | Цана К. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| **I. Пячныя прыборы** | | | | | | |
| 1. Дзверкі топачныя . | Шт. | 280×235 | 6500 | Майстэрня Менбуда . | 5 | 30 |
| 2. „ „ . | „ | — | — | Віцебская скабяная ф-ка | 6 | 30 |
| 3. „ уюшачныя . | „ | 280×145 | 4500 | Майстэрня Менбуда . | 4 | 60 |
| 4. „ паддуўныя . | „ | 160×115 | 3000 | „ | 2 | 96 |
| 5. Полудзверкі топачныя. | „ | — | — | Віцебская скабяная ф-ка | 3 | 30 |
| 6. Уюшкі . . . | „ | 310×310 | 7500 | Майстэрня Менбуда . | 4 | — |
| 7. Рашоткі пячныя . . | „ | 230×180 | 3000 | „ „ . | 1 | 52 |
| 8. Пліты кухонныя . . | „ | 700×330 | 18000 | „ „ . | 11 | 20 |
| 9. „ „ . . | „ | — | — | Віцебская скабяная ф-ка | 11 | 80 |
| **II. Дзвярныя і аконныя прыборы** | | | | | | |
| 1. Задвіжкі аконныя з пласцінкамі . . . | „ | — | 200 | Майстэрня Менбуда . | — | 44 |
| 2. Задвіжкі да рам . . | „ | — | 175 | „ „ . | — | 25 |
| 3. „ дзвярныя . . | „ | — | 700 | „ „ . | 1 | 30 |
| 4. Акоўка фортачная . | Кампл | — | 300 | „ „ . | — | 80 |
| 5. „ „ . | „ | № 5 | — | Дзержынская арцель „Чырвоны Штампаўшч." | — | 89 |
| 6. Замкі вісячыя . . | Шт. | 60×20 | 500 | Майстэрня Менбуда . | 5 | — |
| 7. „ „ . . | „ | — | — | Віцебская скабяная ф-ка | 5 | 50 |
| 8. Завесы з падстаўн. крукамі . . . . | Клгр. | — | — | Майстэрня Менбуда . | — | 95 |
| 9. Завесы дзвярныя . | Пара | — | — | Полацкія с/г. майстэрні | — | 98 |
| 10. Крукі фортачныя . | Шт. | — | 50 | Майстэрня Менбуда . | — | 31 |
| 11. „ з прабоямі . . | „ | — | — | Полацкія с/г майстэрні | — | 78 |
| 12. Прабойчыкі . . | „ | — | — | Майстэрня Менбуда . | — | 10 |

| Назва вырабаў | Адзінка вымеру | Размер у м/м. | Вага ў грамах | Каму падпарадкавана і месца вытворчасці | Цана | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Руб. | К. |
| 13. Скабы аконныя . . | Шт. | — | — | Майстэрня Менбуда . | — | 24 |
| 14. Петлі дзвярныя . . | Пара | 61×125 | 800 | „ „ . | 1 | 19 |
| 15. „ оконныя . . | „ | — | 600 | „ „ . | — | 81 |
| 16. „ стралой . . | 10 пар | 300 | — | Дзержынская арцель „Чырвоны штампаўшчык“ | 6 | 36 |
| 17. „ „ . . | „ | 250 | — | „ „ | 5 | 29 |
| 18. „ „ . . | „ | 200 | — | „ „ | 5 | 04 |
| 19. „ „ . . | „ | 175 | — | „ „ | 4 | 57 |
| 20. „ „ . . | „ | 150 | — | „ „ | 4 | 28 |
| 21. „ карэтныя . . | „ | 75 | — | „ „ | 4 | 40 |
| 22. „ „ . . | „ | 65 | — | „ „ | 3 | 44 |
| 23. „ „ . . | „ | 50 | — | „ „ | 2 | 62 |
| 24. „ „ . . | „ | 45 | — | „ „ | 2 | 49 |
| 25. „ „ . . | „ | 38 | — | „ „ | 2 | 15 |
| 26. „ амерыканскія . | „ | 100 | — | „ „ | 3 | 55 |
| 27. „ „ . . | „ | 75 | — | „ „ | 3 | — |
| 28. „ „ . . | „ | 65 | — | „ „ | 2 | 40 |
| 29. „ „ . . | „ | 45 | — | „ „ | 2 | 55 |
| 30. „ „ . . | „ | 38 | — | „ „ | 2 | 21 |
| 31. Кручок ветравы . . | Пара | — | — | „ „ | — | 38 |

Заўвага. Даны фактычна існуючыя адпускныя цэны; па арцелі „Чырвоны Штампаўшчык“ паказаны цэны IV кв. 1933 г.

## V. Хіміка-маскацельныя матар'ялы

Цана франко-завод за 1 тону

| Назва матар'ялаў | Раёны вытворчасці | Каму падпарадкавана | Цана Руб. | Цана К. |
|---|---|---|---|---|
| 1. Фарбы сухія (мінеральныя) | | | | |
| а) мумія . . . . . | Лоеўскі раён з-д „Краскацвет" | Рэспублік. пр-ць | 90 | — |
| б) капут-мортум . . . | „ | „ | 96 | — |
| в) умбра . . . . . | „ | „ | 135 | — |
| 2. Фарбы цертыя | | | | |
| а) сурык церты . . . | Гомельскі раён арцель „Перамога" | Сампрамкааперацыя | 360 | — |
| б) мумія цертая . . . | „ | „ | 450 | — |
| в) фарба зялёная . . . | „ | „ | 1665 | — |
| г) охра . . . . . | „ | „ | 450 | — |
| 3. Аліфа пакост натуральная . . | Віцебскі раён Віцебскі маслазавод | Наркамснаб | 710 | — |
| 4. „ „Новоль" штучная . . | „ | „ | 641 | — |
| 5. Палітура спіртов. чырвоная . | Гомельскі раён з-д лакапалітурны | „ | 1880 | — |
| 6. „ „ светлая . . | „ | „ | 1880 | — |

**З а ў в а г а.** Аліфа дана франко-вагон станцыя адпраўлення.

# VI. Розныя будматар'ялы

| Назва матар'ялаў | Адзінка вымеру | Раёны вытворчасці | Каму падпарадкавана | Цана | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Руб. | К. |
| 1. Шпалеры: а) Габелен. на каляровай паперы . . . | Кав. у 21 м. | г. Менск. Ф-ка імя Вароўскага | Рэспубл. пр-ць | 2 | 05 |
| 2. б) грунт з бронз. цёмны | " | " | " | 2 | 40 |
| 3. в) " шматколерны | " | " | " | 3 | 08 |
| 4. г) бардзюр з бронзай. | " | " | " | 2 | 40 |
| 5. д) фрыз па грунту з бронзай . . | " | " | " | 4 | 79 |
| 6. Смала сасновая . . . | 1 тона | арысаўскі, Бабруйскі, Маз., Полацкі, Гом., Рэчыцкі | Сампрамкааперац. | 483 | 60 |
| 7. Скіпідар белы . . . | " | " | " | 1968 | 20 |
| 8. Войлак будаўнічы (3-хкілагр.) . | Клгр. | Менскі, Гомельскі, Магілеўс., Віцебскі | " | 1 | 40 |

**Заўвага.** Цана на шпалеры і войлак дана франко-завод, на смалу і скіпідар—франко-вагон станцыя адпраўлення.

# VII. Будмеханізмы

| Назва механізмаў | Месца вытворчасці і назва завода | Цана (у рубл. за 1 шт.) франко-завод |
|---|---|---|
| 1. Варштат Смірнова для вырабу бетанітавых каменняў . . . . . | г. Менск з-д „Комунар" . | 258 |
| 2. Арматурныя варштаты . . . | г. Магілеў з-д „Чырв. Адраджэнец" . . . . . | 65 |
| 3. Камнедрабілкі „Акмэ" з элеватарам, грохатам на калёсным ходу . . | г. Менск з-д „імя Варашылава" | 10.000 |
| 4. Камнедрабілкі „Клеро" . . . | г. Менск з-д „Комунар" . | 950 |
| 5. Апракідныя ваганеткі . . . | „ | 365 |
| 6. Лебедкі фргкц. грузапад'ёмнасцю 0,75 тон . . . . . . | г. Магілеў з-д „Чырвоны Адраджэнец" . . . . | 600 |
| 7. Цагельны агрэгат . . . . | г. Бабруйск з-д „імя Сталіна" | 22000 |
| 8. Палуаўтаматы для рэзкі цэглы . . | „ | 7000 |
| 9. Гравіясарціроўкі . . . . | г. Менск з-д „імя Варашылава" | 935 |
| 10. Зігмашыны . . . . . | г. Магілеў з-д „Чырвоны Адраджэнец" . . . . | 350 |

Заўвага. Фактычна існуючыя адпускныя цэны.

# I. Гужавыя перавозкі транспартнымі арганізацыямі

## Выпіска з пастановы Эканамічнага Совета БССР.

*І-га жніўня 1933 г. № 154.*

### Аб тарыфах на аўта-гужавыя перавозкі.

Эканамічны Совет БССР п а с т а н а ў л я е:

1. Распрацаваныя Галоўдартрансам тарыфы на аўта-гужавыя перавозкі для транспартных прадпрыемстваў, арцеляй, будаўнічых арганізацый, камунальных гаспадарак і інш. гаспадарчых арганізацый, якія маюць уласны транспарт, зацвердзіць і прапанаваць Галоўдартрансу ўвесці іх у дзейнасць на тэрыторыі гарадоў Менска, Гомеля, Віцебска, Магілева і Бабруйска з 15 жніўня г. г.

2. Дазволіць Галоўдартрансу ўносіць у гэтыя тарыфы змены, неабходнасць якіх будзе высветлена ў працэсе ўжывання гэтых тарыфаў.

Нам. Сстаршыні СНК і Эканамічнага Совета БССР **Грысевіч.**

Кіраўнік Спраў СНК і Эканамічнага Совета БССР **С. Кандыбовіч.**

**Дзейнічалі з 15 жніўня па 1 лістапада 1933 г.**

Табл. № 1.

## Т а р ы ф ы

### на гужавыя перавозкі для 5-ці гарадоў БССР на 1933 год.

### (Менск, Віцебск, Гомель, Бобруйск, Магілеў)

| Адлегласць у клм | К л а с ы | | | | | | | | У в а г а |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | |
| | За тона-кіламетр з нагрузкай і выгрузкай у руб. | | | | | | | | |
| 1 | 4,65 | 5,53 | 6,36 | 7,24 | 8,14 | 9,03 | 9,91 | 10,77 | Тарыфная стаўка за тону атрымліваецца шляхам множання адпаведнай тарыфнай стаўкі па гэтай табліцы на адлегласці перавозкі, напрыклад: груз III класа перавозіўся на адлегласці 5 клм. Плата за тону: 2,89 × 5 = 14 руб. 45 к. |
| 2 | 3,33 | 3,75 | 4,20 | 4,66 | 5,08 | 5,52 | 5,97 | 6,36 | |
| 3 | 2,89 | 3,18 | 3,46 | 3,80 | 4,06 | 4,35 | 4,65 | 4,93 | |
| 4 | 2,68 | 2,89 | 3,11 | 3,33 | 3,54 | 3,77 | 3,99 | 4,20 | |
| 5 | 2,54 | 2,72 | 2,89 | 3,06 | 3,24 | 3,41 | 3,59 | 3,77 | |
| 10 | 2,28 | 2,37 | 2,46 | 2,54 | 2,62 | 2,73 | 2,80 | 2,90 | |

# Пастанова № 212

## Эканамічнага Совета БССР

*24 кастрычніка 1933 г.* *г. Менск*

### Аб тарыфах на гужавыя перавозкі.

Эканамічны Совет БССР пастанаўляе:

1. Згадзіцца з прапановай Галоўдартранса аб устанаўленні дыферэнцыраваных тарыфаў на гужавыя перавозкі па групах раёнаў з наступнай разбіўкай раёнаў па групах:

**I група:** Бабруйск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Менск.

**II група:** Асіпавічы, Барысаў, Быхаў, Крычаў, Мазыр, Орша, Полацк, Рэчыца, Слуцк, Шклоў.

**III група:** Усе астатнія раённыя цэнтры.

2. Распрацаваныя Галоўдартрансам тарыфы на гужавыя перавозкі для транспартных прадпрыемстваў, арцеляй, будаўнічых арганізацый, камунальных гаспадарак і інш. гаспадарчых арганізацый, якія маюць уласны транспарт, зацвердзіць і ўвесці іх у дзейнасць з 1 лістапада 1933 г.

3. Гэтыя тарыфы ўжываюцца транспартнымі прадпрыемствамі і інш. арганізацыямі, якія снабжаюцца фуражом у цэнтралізаваным парадку. Для транспартных прадпрыемстваў і інш. арганізацый, якія не снабжаюцца фуражом у цэнтралізаваным парадку, тарыфы гэтыя падвышаюцца. Размер падвышэння ўстанаўліваецца Галоўдартрансам.

4. Прапанаваць Галоўдартрансу выдаць інструкцыю аб парадку ўжывання гэтых тарыфаў, у якой прадугледзіць парадак уліку пры ўжыванні тарыфаў мясцовых асаблівасцяй дарог.

5. Даручыць Галоўдартрансу распрацаваць пытанне аб тарыфах на гужавыя перавозкі транспартам калгасаў і аднаасобных сялянскіх гаспадарак і праз м-ц свае прапановы падаць на зацверджанне Эканамічнага Совета.

Старшыня СНК і Эканамічнага Совета
БССР **М. Галадзед.**

Нам. Кіраўніка Спраў СНК і Эканамічнага
Совета БССР **А. Мацко**

Да п. 1 і 2 пастановы ЭКАСО БССР за 24|X-1933 г. № 212.

**Дзейнічаюць з 1 лістапада 1933 г.**

# Тарыфы

Табл. № 2.

## на гужавыя перавозкі на 1933 год.

| Групы раёнаў | Адлегласць у клм | Класы I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | За тона-кіламетр з нагрузкай і выгрузкай у руб. | | | | | | | |
| **I-група** (Бабруйск, Віцебск, Гомель, Магілеў, Менск) | 1 | 2,79 | 3,32 | 3,82 | 4,34 | 4,88 | 5,42 | 5,95 | 6,45 |
| | 2 | 2,00 | 2,25 | 2,52 | 2,80 | 3,05 | 3,31 | 3,58 | 3,82 |
| | 3 | 1,70 | 1,91 | 2,07 | 2,28 | 2,14 | 2,61 | 2,79 | 2,96 |
| | 4 | 1,61 | 1,73 | 1,87 | 2,00 | 2,12 | 2,26 | 2,39 | 2,52 |
| | 5 | 1,52 | 1,63 | 1,74 | 1,84 | 1,94 | 2,05 | 2,15 | 2,25 |
| | 6 | 1,48 | 1,56 | 1,65 | 1,73 | 1,82 | 1,91 | 2,00 | 2,09 |
| | 7 | 1,43 | 1,51 | 1,58 | 1,66 | 1,73 | 1,81 | 1,88 | 1,96 |
| | 8 | 1,41 | 1,48 | 1,54 | 1,61 | 1,67 | 1,74 | 1,81 | 1,87 |
| | 9 | 1,39 | 1,45 | 1,51 | 1,56 | 1,62 | 1,68 | 1,73 | 1,75 |
| | 10 | 1,37 | 1,42 | 1,48 | 1,52 | 1,57 | 1,64 | 1,68 | 1,74 |
| **II-група** (Асіпавічы, Барысаў, Быхаў, Крычаў, Мазыр, Орша, Полацк, Рэчыца, Слуцк, Шклоў) | 1 | 2,51 | 2,99 | 3,44 | 3,91 | 4,39 | 4,88 | 5,36 | 5,81 |
| | 2 | 1,80 | 2,03 | 2,27 | 2,52 | 2,75 | 2,98 | 3,22 | 3,41 |
| | 3 | 1,53 | 1,72 | 1,86 | 2,05 | 2.20 | 2,35 | 2,51 | 2,66 |
| | 4 | 1,45 | 1,56 | 1,68 | 1,80 | 1.91 | 2,03 | 2,15 | 2,27 |
| | 5 | 1,37 | 1,47 | 1,57 | 1,66 | 1,75 | 1,85 | 1,94 | 2,03 |
| | 6 | 1,33 | 1,40 | 1,49 | 1,56 | 1,64 | 1,72 | 1,80 | 1,88 |
| | 7 | 1,29 | 1,36 | 1,42 | 1,49 | 1,56 | 1,63 | 1,69 | 1,76 |
| | 8 | 1,27 | 1,33 | 1,39 | 1,45 | 1,50 | 1,57 | 1,63 | 1,68 |
| | 9 | 1,25 | 1,31 | 1,36 | 1.40 | 1,46 | 1,51 | 1,56 | 1,58 |
| | 10 | 1,23 | 1,28 | 1,33 | 1,37 | 1,41 | 1,48 | 1,51 | 1,57 |
| **III-група** (Усе астатнія раённыя цэнтры) | 1 | 2,23 | 2,66 | 3,06 | 3,47 | 3,90 | 4,34 | 4,76 | 5,17 |
| | 2 | 1,60 | 1,80 | 2,02 | 2,24 | 2,44 | 2,65 | 2,86 | 3,05 |
| | 3 | 1,36 | 1,53 | 1,66 | 1,82 | 1,95 | 2,09 | 2,23 | 2,37 |
| | 4 | 1,29 | 1,38 | 1,50 | 1,60 | 1,70 | 1,81 | 1,91 | 2,02 |
| | 5 | 1,22 | 1,30 | 1,39 | 1,17 | 1,55 | 1,64 | 1,72 | 1,81 |
| | 6 | 1,18 | 1,25 | 1,32 | 1,37 | 1,46 | 1,53 | 1,60 | 1,67 |
| | 7 | 1,14 | 1,21 | 1,26 | 1,33 | 1,38 | 1,45 | 1,50 | 1,57 |
| | 8 | 1,13 | 1,18 | 1,23 | 1,29 | 1,34 | 1,39 | 1,45 | 1,50 |
| | 9 | 1,11 | 1,16 | 1,21 | 1,25 | 1,30 | 1,34 | 1,38 | 1,40 |
| | 10 | 1,10 | 1,14 | 1,18 | 1,22 | 1,26 | 1,31 | 1,34 | 1,39 |

У в а г а. Тарыфная стаўка за тону атрымліваецца шляхам множання адпаведнай тарыфнай стаўкі па гэтай табліцы на адлегласці перавозкі, напрыклад: груз III класа перавозіўся на адлегласці 5 клм. Плата за тону па II групе: 1-57 × 5 = 7 руб. 85 кап.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## да тарыфаў на гужавыя перавозкі па БССР на 1933 г.

Асноўнай тарыфнай стаўкай для гужавога транспарта з'яўляецца ўстаноўленая СНК БССР пастановай за № 209 ад 25|II 33 г. цана 3 руб. 50 кап. за тона-кіламетр, разам з нагрузкай і выгрузкай без снабжэння фуражом з дзяржаўных нарыхтовак пры радыусе перавозак у 3 клм. каштоўнасцю ў гэтых умовах каня-дня лічыцца ў 42 р., а пры снабжэнні фуражом з дзяржзагатовак у 25 руб. 20 кап.

1. Тарыфныя стаўкі для гужавога транспарта ўстанаўліваюцца згодна прыкладаемага спіса для 3 паясоў, падзенная аплата для II-га пояса зніжаецца на 10 проц., а для III-га пояса на 20 проц. супроць асноўнай стаўкі.

Для выпадковай разавай кліентуры тарыфы павялічваюцца на 10 проц.

1. Тарыфы ўстанаўліваюцца для markрознага рода грузаў, якія размяркоўваюцца на 8 класаў у залежнасці ад часу патрэбнага на пагрузку і разгрузку і ступені скарыстання танажа.

Падставай для падразмеркавання грузаў на класы служаць наступныя прызнакі:

**I клас**—Мешкавыя, удобна-насімыя грузы вагай у асобным месцы звыш 65 клг., масавыя навалачныя грузы, якія даюць найвышэйшую норму выпрацоўкі пры пагрузачна-разгрузачных работах.

**II клас**—Усе іншыя вясомыя тарныя грузы ў мяккай тары рознай вагі, каткабочкавыя грузы вагай звыш 165 клг. вясомыя навалачныя грузы.

**III клас**—Грузы вясомыя ў цвёрдай упакоўцы, адзіночныя сярэдняй вагай ад 50 да 85 клг., катна-бачковыя вагай у 165 клг., навалачныя грузы менш удобныя ў пераапрацоўцы, чым паказаныя ў 1-м і 2-м класе.

**IV клас**—Грузы тарныя ў цвёрдай упакоўцы, легкавагавыя грузы ў цюках, звязках, пачках як легкавагавыя, таксама і аб'ёмістыя, вадкасць і іншыя грузы ў зачыненых і адчыненых скрынках, няўдобна-насімыя і патрабуючыя асцярожнасці, катныя грузы няўдобныя ў рабоце (барабаны, ролі), а таксама і кадушкі, сельска-гаспадарчыя машыны ў разобраным выглядзе, вагай да 85 клг. навалачныя, няўдобныя ў перапрацоўцы пад лапату.

**V клас**—Адзіночныя няўдобна-насімыя (вадкасці ў шклянай тары), цяжка-вагавыя і громоздкія, катна цяжка-вагавыя навалачныя, патра-

